# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 10 (262) | ГОД VІ | БЕЛАСТОК 5 САКАВІКА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


«Дом друку» у Беластоку, у якім змяшчаецца рэдакцыя «Нівы».
Фота — Г. РАГАЗІНСКІ






З НАГОДЫ ЖАНОЧАГА СВЯТА — 8 САКАВІКА — ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА ЖАДАЕ ЎСІМ ЖАНЧЫНАМ ПОСПЕХАЎ У ПРАЦЫ І ШЧАСЦЯ Ў АСАБІСТЫМ ЖЫЦЦІ.

У СУВЯЗІ З МІЖНАРОДНЫМ ЖАНОЧЫМ СВЯТАМ СКЛАДАЕМ ЖАНЧЫНАМ САМЫЯ САРДЭЧНЫЯ ПАЖАДАННІ.

**«НІВА»**

## Да новых сустрэч!

4 сакавіка г. г. споўнілася пяць год з дня выйсця ў свет першага нумара «Нівы». Цяпер, на парозе другога пяцігоддзя, калі ўжо маем пэўныя дасягненні і вопыт, гэты дзень мае для нас — журналістаў «Нівы» — спецыяльны выраз.

Беласточчына ў развіцці і распаўсюджванні беларускага друкаванага слова адыграла выключную ролю. Тут, у Заблудаве ўжо ў XVІ ст., працягваючы традыцыі Скарыны, друкаваў кніжкі адзін з заснавальнікаў беларускага друкарства Пётр Мсціславец, тут, у Беластоку ў гадах 1862 — 63 выходзіла першая беларуская газета «Мужыцкая праўда», якую рэдагаваў слаўны сын Беласточчыны, адзін з правадыроў студзеньскага паўстання Кастусь Каліноўскі.

Але ад таго часу, калі не лічыць кароткага перыяду дзейнасці савецкай «Вольнай працы», ніводная беларуская газета не друкавалася ў Беластоку. Царызм, а затым санацыя адмаўлялі права на выдаванне на Беласточчыне газеты на беларускай мове. Народная ўлада гэтае натуральнае права нам дала, больш — узяла на сябе ўсе кошты, звязаныя з выдаваннем газеты.

Але ў выніку таго, што ў папярэднім перыядзе не было ў нас часопіса на роднай мове, не было і падрыхтаваных чытачоў, а таксама кадры журналістаў. Гэта была самая цяжкая праблема «Нівы» ў час яе заснавання. Пачалі рабіць мы газету поўныя энтузіязму, але без вопыту труднай і адказнай журналісцкай працы. Вопыт здабывалі мы з чарговымі нумарамі газеты. Кожная яе здабыча нас шчыра радавала, а той ці іншы недахоп — засмучваў. І хоць і цяпер мы яшчэ (прызнаемся адкрыта) не без недахопаў, але яны нам ужо не зганяюць з павекаў сну, бо мы падраслі, пасталелі, пратапталі не адну сцежку да нашых чытачоў і здабылі іх давер. Аб гэтым сведчаць і 8 тысяч лістаў, якія за гэты час атрымалі мы ад нашых чытачоў, і, перш за ўсё, змест іх.

Мы кожны дзень хвалюемся, атрымаўшы чарговую пошту. Лісты пішуць нам розныя людзі, і пішуць аб розных справах. У іх розныя турботы і клопаты, з якімі сустракаюцца людзі ў штодзённым жыцці не выключаючы самых інтымных спраў.

Гэтыя шчырыя адносіны чытачоў да сваёй рэдакцыі найбольш нас цешаць.

Цешыць нас таксама і той факт, што стала пашыраецца колькасць нашых чытачоў, што «Ніву» чытаюць не толькі на Беласточчыне, але і ў цэлай краіне, а таксама за яе межамі.

Гэта нас забавязвае і дае нам стымул да далейшай працы.

Адзначаючы свой юбілей, мы можам запэўніць сваіх чытачоў:

— Усё зробім, каб яшчэ больш наблізіць газету да Вашых патрэб і пажаданняў, каб і ў далейшым адчуваць Вашу ласку, як гэта было ў мінулым пяцігоддзі.

Да новых сустрэч, дарагія чытачы!

## Выступае жанчына

Ліга жанчын імкнулася і будзе імкнуцца да таго, каб узрастаў удзел жанчын у жыцці нашага народа, каб узмацнялася грамадская пазіцыя жанчыны, як саўласніка краіны.

**(З пастановы II Краёвага з'езду Лігі жанчын).**

Гэта факт, што ў апошнія гады адчуваем ўздым сярод нашых жанчын, я б сказала прабуджэнне. Наша жанчына хоча зараз больш ведаць, больш умець, робіцца больш патрабавальнай. Добра гэта!

Даволі паспяхова развіваецца і ўспрымаецца сярод жанчын нашага ваяводства практычная дзейнасць, звязаная з штодзённым жыццём. Не буду многа разводзіцца, а прыгадаю толькі некаторыя цыфры.

У ваяводстве існуе 12 спецыяльных пунктаў, якія даюць парады: юрыдычныя, педагагічныя і аб здароўі.

Усіх парад у 1959 і 1960 гадах было каля 1500, у тым 628-юрыдычных; 500 — аб здароўі, з гэтага 250 — аб свядомым мацярынстве; 300 — педагагічных; 80 — з дамаводства. Дакладаў аб свядомым мацярынстве было 350.

Праводзяцца таксама курсы дамаводства. А вось лічбовыя даныя аб іх:

1957 г. — не было вогуле. 1958 г. — 147: у горадзе 96, на вёсцы 78, удзельнікаў 3227. 1960 г. — 385: у горадзе 98, на вёсцы 287, удзельнікаў 8290.

З паветаў, у якіх пражываюць беларусы, найлепш працуюць жанчыны ў Сямяціцкім і Гайнаўскім. За 2 гады ў Сямяціцкім арганізавана 57 курсаў крою і шыцця — пераважна на вёсцы. Скарыстала з іх 1460 жанчын; 12 курсаў гафту на машыне — скарыстала 240 жанчын; 43 кулінарныя курсы — скарыстала 89 жанчын. 12 студзеня 1961 года ў Сямяцічах жанчыны арганізавалі баль для дзяцей. На ім было 300 малышоў.

Як ужо адзначыла, працавалі і гайнаўскія жанчыны, нягледзячы на тое, што Павятовае праўленне

(Працяг на стар. 4)

**Родныя краявіды**



ВЁСКА ШЧЫТЫ (Бельскі павет).
фота: Г. РАГАЗІНСКІ

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## 3 х жанчына

Жанчыны! Вось тры з іх. Не праслаўленыя, не выдатныя асабліва... Такія, якіх тысячы. Папросту — ж а н ч ы н ы.

**Мар'я Кухарчык** працуе суддзёю Павятовага суда ў Бельску.

**— Што схіліла Вас выбраць прафесію суддзі?**

— Працавала я ў адміністрацыі Шэлькоўскай гміны (пав. Макаў Мазавецкі). Там прышлося мне,



як нармальна ў гэтакай працы, сустрэцца з рознымі справамі Часта не зусім згоднымі з правам. Гэта выклікала ў мяне неабходнасць асуджэння і супрацьпастаўлення ўсялякаму камбінатарству і злу. І вось трапілася аказія. Я пайшла вывучаць права.

**— Як Вы адчуваеце сябе ў гэтай ролі?**

— Я так палюбіла сваю працу, што зараз не замянілася б і з міністрам.

**— Якую катэгорыю злачынстваў найчасцей прыходзіцца Вам разглядаць?**

— На Бельшчыне найчасцей сустракаюцца гаспадарчыя злачынствы і справы за хуліганства, бойкі.

**— Якога падсуднага Вам лепш бачыць перад сабою: жанчыну ці мужчыну?**

— Без розніцы.

(Працяг на стар. 5)

# СЛАЎНЫЯ ЖАНЧЫНЫ



**ЖАННА Д'АРК (жыла 1412—1431)** — гераіня французскага народа. Сялянка з вёскі ў Латарынгіі. Калі каралеўскія прабадыры не маглі пераадолець англійскіх захопнікаў, Жанна стала на чале войска і вызваліла краіну.

Французскія феадалы зляякаліся Жанны — простай сялянкі, за якой сталі народныя масы, і здрадай выдалі яе англічанам. Царква прыпісала ёй чары і спаліла на кастры.

**ЖОРЖ САНД** (мужчынскі псеўданім Аўроры Дзюдзеван — **(1804 — 1876)** — вядомая французская пісьменніца. Першая ў літаратуры выступіла за эманцыпацыю жанчын, — супроць тагачасных форм шлюбу, якія прыніжалі годнасць жанчыны.

Яе штодзённае жыццё было таксама бунтам супраць умоў, у якіх павінна быць жыць жанчына. Жорж насіла мужчынскую вопратку, курыла, паводзіла сябе як мужчына.





**КЛАРА ЦЭТКІН (1857 — 1933)** — выдатны дзеяч германскага і міжнароднага рабочага руху, адзін з заснавальнікаў Камуністычнай партыі Германіі. Ад 1892 г. праз 25 год была рэдактарам газеты «Глейхейт» — баявога органа міжнароднага жаночага руху.

З 1920 года — дэпутат рэйхстага.

**МАРЫЯ КЮРЫ - СКЛАДОЎСКАЯ (1867—1934)** — славуты польскі фізік і хімік, заснавальнік новай галіны ў навуцы - радыёактыўнасці. Першая адкрыла радыёактыўныя рэчывы: полон і рад.

Была першай жанчынай - прафесарам Парыжскага ўніверсітэта, дзе ўпершыню ў свеце пачала чытаць лекцыі па радыёактыўнасці.

Двойчы лаўрэат узнагароды Нобля.



**ГАЛІНА ЎЛАНАВА** — заслужаная савецкая танцоўшчыца. Цэлым светам прызнана найлепшай балерынай нашых часоў.



**СІРЫМА БАНДАРАНАЙКЕ** — цяперашні прэм'ер і міністр замежных спраў Цэйлона. Вядзе разумную мірную палітыку суіснавання і супрацоўніцтва з усімі народамі свету.



## РАДЗІМА НАЗЫВАЛАСЯ - ДАРАГАЯ МАЦЯРЫНСКАЯ СТАРАНА

# Як жылося пад уладай жанчыны

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

Калі гэта было? — скажа насмешліва скептык. А тымчасам факт, што **сапраўды было**, не падлягае сумненню. На гэтую тэму існуе многа навуковых прац і матэрыялаў, з якіх можам даведацца — **ЯК БЫЛО.** І гэта будзе напэўна найцікавейшае. Але, каб не пакінуць скептыка без адказу, скажу, што матрыярхат існаваў у дагістарычныя часы, а пэўныя формы яго знаходзім яшчэ і цяпер у многіх плямён нецывілізаваных, аб чым будзе далей.

**ДЗЕ ІСНАВАЎ МАТРЫЯРХАТ? УСЮДЫ! Вучоныя не ведаюць такога старажытнага народа, які б меў іншае права, чым жаночае - мацярынскае. Да такіх народаў належылі: вавілаціяне, асірыйцы, егіпцяне, грэкі, скіфы (нашыя найдалейшыя продкі), галлы, іберыйцы, германцы і г. д.**

**ЯК ТАДЫ ЖЫЛОСЯ?**

**Жанчына была кіраўнічкай і начальніцай сям'і і роду. Яна карысталася высокім паважаннем як у доме, так і ў цэлым племені. Яна міратворца, суддзя, свяшчэннаслужыцель. Жанчына была недатыкальнай. Забойства маці лічылася самым цяжкім злачынствам, якое павінны былі адпомсціць усе мужчыны.**

Вось што расказвае Тацыт — старажытны гісторык: «Германцы думаюць, што ў жанчыне жыве нешта святое і прарочае, таму яны з павагай адносяцца да яе слоў і да яе парад».

Жанчыны ў сваім племені і родзе трымалі дасканалы парадак. Калі было трэба, стасавалі суровыя правілы і бяда, напрыклад, мужчыне, які быў лянівы, бо замала спрытна ці сумленна ўносіў сваю долю для ўтрымання ўсіх. Яго праганялі з свайго роду (значыць жаночага) і ён вяртаўся да роду, з якога выйшаў, дзе таксама прымалі яго неахвотна. **ЛЯНІВЫМ І НЕСУМЛЕННЫМ НЕ БЫЛО МЕСЦА СЯРОД СУМЛЕННЫХ.**

**Усё тады было супольнае — гаспадарка, склады ежы. Супольна працавалі, супольна карысталіся здабыткамі працы. Кожны сумленна стараўся папоўніць супольныя багацці.**

**У часе матрыярхату не было крывавых войнаў. Жанчына ўмела забяспечыць мір для сваіх дзяцей, мужоў і для сябе. Паасобныя плямёны паважалі ўзаемна свае тэрыторыі.** Калі, аднак, здараліся выпадкі нападзення аднаго племені на іншае, такое племя атрымлівала належны адпор не толькі ад мужчын, але і ад жанчын. Як сцвярджае Герадат (старажытны грэчаскі гісторык), у скіфаў дзяўчына магла выйсці замуж толькі пасля таго, як яна забіла прынамсі аднаго ворага.

У тыя часы фізічная і духоўная розніца паміж мужчынамі і жанчынамі была намнога меншай, чым цяпер. Жанчына не ўступала ні па фізічнай сіле, ні па спрытнасці мужчыне.

**Радство ішло па лініі маці.** «Спытайце лікійца, — гаворыць нам Герадат, — хто ён такі, і ён у адказ табе скажа сваё ўласнае імя, потым імя сваёй маці і г. д. — па жаночай лініі. Мала таго, калі жанчына з данага племені выходзіла замуж, напрыклад, за іншаземца, то яе дзеці былі паўнапраўнымі грамадзянамі свайго народа. Але калі мужчына жаніўся з іншаземкай, яго дзеці не мелі ніякіх праў.

**Свабоднае становішча жанчыны ў эпоху мацярынскага права садзейнічала развіццю прыгажосці жанчыны, падымала яе гордасць, годнасць і самастойнасць. Вопратку жанчыны насілі свабодную; яна плаўна ападала з плеч, пакідаючы голымі рукі і ногі.**

Жанчына ў той час займала становішча, якога з тых пор ніколі больш не займала.

Асабліва доўга ўтрымлівалася мацярынскае права ў Спарце (старажытная дзяржава на поўдні Грэцыі).

З часам мацярынскае права замяніла бацькоўскае. Як адбыўся гэты пераход у паасобных выпадках — цяжка сказаць. Большасць вучоных на падставе, асабліва старажытных твораў літаратуры, схіляецца да думкі, што не прайшоў ён мірна. Жанчыны аказвалі моцнае супраціўленне.

Цікавымі з'яўляюцца словы нямецкага дзеяча і вучонага Аўгуста Бебеля (1840 — 1913), якія прыводжу:

**«ПРЫЗНАННЕ МАЦЯРЫНСКАГА ПРАВА АБАЗНАЧАЛА КАМУНІЗМ, РОЎНАСЦЬ УСІХ: З'ЯЎЛЕННЕ БАЦЬКОЎСКАГА ПРАВА АБАЗНАЧАЛА ПАНАВАННЕ ЎЛАСНАСЦІ І РАЗАМ З ТЫМ ПРЫГНЕЧАННЕ І ПРЫНІЖЭННЕ ЖАНЧЫНЫ».**

(Працяг на стар. 6)

# ЯК ЖЫЛОСЯ ПАД УЛАДАЙ ЖАНЧЫНЫ

працяг са стар. 3

**А вось прыклад захавання пэўных форм матрыярхату ў нашыя часы:**

**У Паўднёвай Афрыцы на рэчцы Замбезі ЛІВІНГСТОН — выдатны англійскі падарожнік — даследавальнік Афрыкі (1813—73) спаткаў балонцаў, прыгожае і моцнае племя, у якога жанчыны карыстаюцца прывілеямі. Яны прымаюць удзел у радзе.**

Калі муж скрыўдзіць жонку, ён караецца надта балючым спосабам — голадам. «Муж вяртаецца дамоў, — расказвае Лівінгстон, — каб паесці, але жонка адпраўляе яго да другой і ён не дастае нічога. Змучаны і галодны ён улазіць на найвышэйшае дрэва ў вёсцы і жаласліва апавяшчае: «Слухайце, слухайце, я думаў, што жаніўся на жанчынах, а яны для мяне ведзьмы. Я халасцяк і няма ў мяне ніводнай жонкі. Ці ж гэта добра для такога пана як я».

**ДЖОНСТАН** (1858 — 1927) — удзельнік адной англійскай экспедыцыі аб жанчынах аднаго племені на Конга: яны часта мацнейшыя ад мужчын, лепш развіты і маюць прыгожую фігуру.

**ПАРКЕ** аб жанчынах іншага племені з-над Конга: — Гэта прыгожыя стварэнні, якія могуць несці такую самую ношу як мужчыны.

**ШЭЛОНГ** аб папуасах Новай Гвінеі сцвярджае, што жанчыны іх мацнейшыя ад мужчын.

**РАСКАЗ АДНАГО НЯМЕЦКАГА ДОКТАРА,** які даследаваў Камерун (Афрыка). **«У большасці родаў права наследства абапіраецца на матрыярхаце. Бацькоўства — рэч абыякавая. Братамі і сёстрамі лічацца толькі дзеці адной маці. Мужчына перадае сваю маёмасць не сваім дзецям, а дзецям сваёй сястры, гэта значыць сваякам, аб якіх напэўна ведае, што з'яўляюцца яго раднёй.**

Галава народа Майі вытлумачыў мне: — Мая сястра і я, зразумела, кроўныя сваякі, бо мы дзеці адной маці; мая сястра таксама несумненна родная свайму сыну; такім чынам яе сын — мой наследнік і пасля маёй смерці будзе каралём майго горада. «А ваш бацька?» — спытаў я. «Я не ведаю, што гэта такое — мой бацька», — адказаў ён. Калі я затым спытаў у яго, ці ж не мае ён дзяцей, ён адказаў, качаючыся па зямлі ад смеху, што ў іх не мужчыны маюць дзяцей, а толькі жанчыны.

## На мяжы Еўропы і Азіі




На Урале, там дзе праходзіць граніца Еўропы і Азіі, устаноўлены новы абеліск. Пяціметравую калону вянчае шар, навокал якога размешчаны мадэлі спадарожнікаў Зямлі.

У дзень урачыстага адкрыцця абеліска жыхары недалёкага пасёлка Ўралец, адзетыя ў старадаўнія касцюмы, спаткалі на граніцы дзвюх частак свету ўсіх праязджаючых і па старыннаму абычаю частавалі іх рускім квасам.

## Міжнародная жаночая арганізацыя

**МІЖНАРОДНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ФЕДЭРАЦЫЯ ЖАНЧЫН** — масавая дэмакратычная жаночая арганізацыя. Была створана 1 снежня 1945 года на Міжнародным жаночым кангрэсе ў Парыжы. **Задачы МДФЖ: актыўны ўдзел у барацьбе за поўнае знішчэнне фашызма, за мір між народамі; барацьба за поўнае раўнапраўе жанчын з мужчынамі ва ўсіх галінах палітычнага, эканамічнага і сацыяльна - прававога жыцця, за права жанчын да вучобы, працы і роўнай з мужчынамі платы; барацьба за лепшае жыццё для дзяцей і за іх дэмакратычнае выхаванне.**

Гэта найбольшая па колькасці членаў арганізацыя ў свеце. Да яе належаць прагрэсіўныя жаночыя арганізацыі ўсіх краін свету ў тым ліку і Ліга жанчын Польшчы.

### Адкуль узялося свята жанчын

На 2-ой Міжнароднай канферэнцыі жанчын сацыялістак у Капенгагене (Данія) ў 1910 годзе па прапанове Клары Цэткін, было прынята **лічыць дзень 8 сакавіка Міжнародным днём жанчын і праводзіць яго штогод, як дзень міжнароднай салідарнасці жанчын у барацьбе за роўныя эканамічныя і палітычныя правы з мужчынай.**

# РЭКІ ПАПЛЫВУЦЬ НАЗАД

Калі паглядзець на Каспійскае мора, здаецца, што яно паўнаводнае. Аднак Каспій плыцее. Каспійскім капітанам прыходзіцца ўсё асцярожней праводзіць свае судны да прычалаў, ад якіх адступае мора. Глыбіня ўменьшываецца, мелі ператвараюцца ў астравы, залівы знікаюць. У дэльце Волгі з 500 прытокаў і рукавоў суднаходным астаўся толькі адзін Бахцемір. За апошнія 30 год узровень мора панізіўся больш, чым на 2 метры. Каспій змагаецца ў адзіночку. Ён аддае больш вады, чым атрымоўвае. Каспію неабходна дапамога.

Апрача таго, з кожным годам павялічваюцца пасяўныя плошчы Паволжжа. Аднак яшчэ большасць зямель не апрацоўваецца. Не хапае вады. А да тысячы кіламетраў на поўнач Пячора і Вычагда праз лясы і балоты нясе лішкі вады ў Ледавіты акіян.

Зараз плануецца, каб гэтыя лішкі вады перадаць Волдзы і Каспію, каб павярнуць іх з паўночнага напрамку на паўднёвы, да Каспія. І так будзе.

Пройдзе некалькі год і будуць вырыты новыя руслы для гэтых рэк, будуць на іх пабудаваны агромныя плаціны, агромныя вадасховішчы.

Адна зямельная плаціна будзе пабудавана там, дзе ў Пячору ўпадзе Воя, другая — на Вычагдзе, непадалёку Усць-Кулыма, трэцяя — з гідраэлектрастанцыяй на Верхняй Каме.

Усць-Войская плаціна будзе даўжынёй у 12,5 км, Усць - Куломская — даўжынёй блізка 2 км і Верхнекамская — даўжынёй 5,5 км. Будаўнікі воды гэтых рэк накіруюць у Каму.

Паўночныя рэкі стануць новымі марамі. Тры агромныя вадасховішчы разальюцца паміж трыма плацінамі гэтай гідрасістэмы да горада Бароўска на Верхняй Каме.

Гэтыя вадасховішчы будуць злучаны каналамі паўночным — Пячорска - Вычагодскім і паўднёвым - Вычагодска - Камскім. Даўжыня першага канала — 62 км, другога — 99 км. Агульная плошча аб'яднанага такім чынам вадасховішча складзе 15 500 квадратных кіламетраў. Магутны паток ульецца ў рэчышча Волгі. Мільярды кубаметраў вады Пячоры і Вычагды прынясуць новае жыццё ў засушлівыя стэпы Заволжжа і ператвараць іх у мора калосся. Праз турбіны гідрастанцый Волжскага каскада паплывуць новыя мільёны кілаватаў энергіі.

А ці Вычагда і Пячора не стануць ахвярамі сваёй шчодрасці? Не. Гэтым рэкам не пагражае абмяленне. Усць-Куломская плаціна некалькі раз у год будзе ўпускаць частку адрэзаных вычагодскіх вод у старыя берагі. Адносна другой паўночнай ракі, то прапануецца пабудаваць на ўчастку ад горада Пячоры да Нар'ян-Мара тры маланапорных гідравузлы, альбо пабудаваць у ніжнім цячэнні вялікую ГЭС, якая падніме ўзровень вады.

Каспій будзе штогод дадаткова атрымоўваць каля 40 кубічных кіламетраў вады. Пройдзе некалькі год і на картах свету паявіцца яшчэ адна папраўка ўнесеная савецкімі людзьмі. Пячора і Вычагда будуць упадаць і ў Ледавіты акіян і ў Каспійскае мора.




Тры гады таму назад я закахаўся ў адной дзяўчыне. З ёю год хадзіў на забавы, заходзіў да яе хаты. Аня малодшая ад мяне на 6 год. І яна стала гаварыць сваім калегам, што я для яе за стары. Калі я аб гэтым даведаўся, перастаў хадзіць да яе.

Яна пачала дружыць з малодшым, са сваім аднагодкам. Але ён пасля года часу пакінуў яе.

Да яе пачалі звяртацца іншыя маладыя людзі з прапановай жаніцьбы. Аднак Аня не хоча за іх выходзіць замуж. Я і далей калі-некалі заходжу да Ані. Яе бацькі жадаюць, каб я з Аняй ажаніўся. Аб гэтым і мне гавораць. Але я бацькам яе нічога не кажу, бо Аня пра гэта маўчыць. А сам не асмельваюся ў яе аб гэтым запытацца, бо баюся, каб яна пазней не смяялася з мяне перад сваімі і маімі калегамі і знаёмымі. Якім спосабам аб гэтым спытаць Аню і што зрабіць, каб з ёю ажаніцца?

**Коля з Бельска**

**Як вынікае з гэтага лісту, Вы па-сапраўднаму, глыбока закахаліся ў Аню. І кахаеце яе ўжо тры гады. Але аб гэтым Аня не ведае. І Вам не трэба сароміцца гэтых высокіх пачуццяў да яе. Вам трэба сабрацца з адвагаю і прызнацца Ані ў любві да яе і сур'ёзна з ёю аб гэтым пагаварыць.**

**Калі Аня нялёгкадумная дзяўчына, яна зменіць свае адносіны да Вас. Бо кожную любоў трэба цаніць і за яе паважаць чалавека. Кожная дзяўчына хацела б быць моцна каханай. З любві сумленнай, шчырай можа смяяцца толькі несур'ёзны і малавартасны чалавек. Кожная дзяўчына марыць аб тым, каб будучы яе муж кахаў яе па-сапраўднаму, глыбока. Бо гэта залог сямейнага шчасця. Думаю, што ў вас справа хутка наладзіцца.**

**СЭРЦАЙКА**

## МОДА



Блузка з адкладным каўнерам і модная спадніца ў папярэчныя паясы.

### ЗДАБЫЧА ЗОЛАТА І СОЛІ

## ЗОЛАТА

Варта пазнаёміцца, колькі капіталістычныя краіны здабываюць золата. У 1957 годзе здабыта 914.000 кг золата, у 1958 годзе таксама такую ж колькасць, а ў 1959 годзе 1.007 000 кг.

А вось колькі паасобныя краіны здабывалі золата ў 1959 годзе.

| | |
|---|---|
| Саюз Паўднёвай Афрыкі | 642 000 кг |
| Канада | 138 000 „ |
| Злучаныя Штаты Амерыкі | 50 000 „ |
| Аўстралія | 33 000 „ |
| Гана | 28 000 „ |
| Паўднёвая Радэзія | 18 000 „ |
| Філіпіны | 12 000 „ |
| Калумбія | 12 000 „ |
| Конга | 11 000 „ |
| Японія | 10 000 „ |

Нягледзячы на вялікую здабычу, цана золата не спадае. У палове 1960 года 31 грам золата каштаваў 35 долараў і 10 цэнтаў.

## СОЛЬ

Сусветная прадукцыя солі ў 1959 годзе складала 80,6 мільёнаў тон. Найбольшыя прадуцэнты солі:

| | | |
|---|---|---|
| Злучаныя Штаты Амерыкі | 22,8 | мільёнаў тон |
| Кітайская Народная Рэсп. | 12,9 | „ |
| СССР | 6,5 | „ |
| Англія | 5 | „ |
| Францыя і ФРГ па | 3,6 | „ |
| Канада | 2,9 | „ |
| ГДР | 1,8 | „ |
| Польшча і Італія па | 1,6 | „ |
| Японія | 1,2 | „ |




У ДЗЕНЬ ЖАНОЧАГА СВЯТА





# ЮБІЛЕЙНЫ

Юбілеі бываюць доўгія і кароткія, вялікія і малыя, вясёлыя і сумныя, адным словам такія, як большасць нашых юбіляеў.

Калі чалавек ідзе на юбілей і вяртаецца пасля трох дзён дахаты і то не адразу, але з перасядкай у камісарыяце, значыць быў ён на доўгім юбілеі. На кароткім юбілеі запрошаны забяжыць да юбіляра, кульне кілішак, закусіць цыбулькай, анекдот раскажа, з юбілярам пацалуецца, перапросіць і развітаецца. Пры малых грашовых расходах вялікага юбілея сам цудатворца не зробіць. За дзяржаўныя сродкі сёння забаронена арганізаваць папойкі, таму вялікія юбілеі выйшлі ў нас з моды. Затое малыя юбілеі на кожным кроку сустрэнеш, у растаране, буфеце ГС, у суседавай хаце і г. д. Нагоды бываюць усялякія. Пяты раз карова ацялілася — чокнемся! Дзесяты мароз стукнуў — патрэцца трэба! Цёшча нагу зламала — вып'ем на здароўе цёшчы! Ды ці пералічыш усе гэтыя нагоды?

Або, напрыклад, святкуе нехта сярэбранае вяселле. Юбіляры сядзяць на ганаровым месцы. Музыка грае. Звоняць кілішкі. Сыплюцца тосты. Вяселле у разгары, а мы думаем: Юбіляр велікамучанік — як жа ён вытрымаў 25 год з гэтай брытвай. Мо' з гэтага выпадку ён і рады. Сумна выходзіць такі юбілей, дзе слязу выліць трэба над лёсам чалавека.

А залатое вяселле?

Глядзіш на старыка - багатыра і кандыдата ў рай бачыш. Паспрабуйце толькі, мілыя чытачы, з адной бабай 50 гадоў пражыць. Тут і майстэрства і гераізм неабходны.

Таму ў залатыя гады і ўзнагароджваюць юбіляраў залатымі медалямі. А ад дзяцей сваіх яны ў большасці выпадкаў фігу з макам атрымоўваюць.

Юбілей нашай «Нівы» нічога супольнага з такімі ўрачыстасцямі не мае.

Юбілей «Нівы» — малады, пяцігадовы і святкуем мы яго з усімі нашымі чытачамі.

За мінулыя пяць гадоў ніхто ў рэдакцыі не пастарэў. А галоўны рэдактар нават памаладзеў, таму што чытачоў «Нівы» прыбывае.

У рэдакцыі ўсе жывыя і здаровыя, чаго і чытачам жадаем. Хаўтур у рэдакцыі не было. Праўда, быў час, што, здавалася, Андрэй Самасей памёр. Але смерць яго аказалася толькі клінічнай. Выжыў Андрэй і далей вершамі сваімі нас радуе.

Падобны выпадак у Маскве быў. Там сабака нябожчыкам быў дзве гадзіны. Цела яго астыла да 11 градусаў. Але прафесар Нягоўскі падагрэў сабаку, крыві напампаваў і сабака ажыў. Сёння ён жыве і весела скача, толькі вершаў не піша.

Некаторыя з чытачоў - юбіляраў несумненна памятаюць маё першае прывітанне «Бывай і здаровы» і скажуць: зябадай яго качка сляпая, а што ж ён напіша ў 10-гадовы юбілей?

Людзі добрыя, ды пасадзіце мяне хоць у мяккае крэсла, усяроўна напішу! Нават смерць у гэтым мне не перашкодзіць, калі ў патрэбны час у прафесара Нягоўскага не будзе юбілея. А чытачоў нашых няхай ахоўваюць чыстыя і нячыстыя сілы да наступнага юбілея «Нівы». Жывіце здаровы, каб нічога не перашкаджала вам тэрмінова аплачваць падпіску на родны часопіс. Жадаю вам гэтага ад чыстага сэрца, таму што пошта працуе пакуль што не зусім чыстасардэчна і нябожчыкам не ўручае «Нівы».

*Дзядзька Лявон*

### НЕ ПРАГАВАРЫЛАСЯ

Адна маці мела чатыры дачкі. Усе яны былі прыгожыя, толькі гаркалі і таму не маглі выйсці замуж. Аднойчы маці ім загадала, як прыедуць райкі, каб яны нічога не гаварылі, а яна ўсё будзе адказваць.

Прышоў той час, калі прыехалі райкі. Дочкі сядзяць моўчкі, за іх маці гаворыць. Але маці вышла ў кухню. Кавалер запаліў папаросу, а запалку кінуў на палавік.

— Каварэр, каварэр, паравік прагарэў!
А другая:
— Ты б ужо Чара лепш маўчара.
А трэцяя:
— Ты жабыла, што табе мама гаварыра!
А чацвёрта:
—Шрава Богу, шрава Богу, што хоць я не прагаварырася!

**Ольга Назарук**
Плюцічы




### МІЛАЕ ПАРАСЯТКА

Аднойчы мужык з жонкай павезлі на рынак парасятка. Вязуць гэтае парасятка, а яно ім выскачыла з воза і ўцякло. Кажа муж:
— Вось табе і бяда, няма парасятка.
— Ах ты, мілае маё парасятка, — кажа жонка.
— А каб ты прапала, — кажа да жонкі муж, — у цябе парасятка мілае, а муж для цябе не мілы. 20 год з табою пражыў, і ты мяне ні разу не назвала мілым!

**Марыя Казачук**
Старына

### ГАРАНТАВАНАЯ КАСА

Селянін купіў касу і вострым бокам прабуе яе па барадзе. Убачыўшы гэта сусед, спалохаўся і пытае:
— Сусед, што вы касою голіцеся?
— Не, я хачу спраўдзіць, якая сталь.
— То ж вы можаце акалечыцца!
— Э, там, кажаце... гэта ж выраб краёвы

**Ніна Аляксеюк**
Палічна

### ПАПЯРОСА

Курыў дзед папяросу, ды курачы, трымаў яе ў зубах. Падышоў да яго малы ўнук і кажа:
— Дзеду, ці не выляціць у цябе гэтая папяроса?
— Не, — адказаў дзед. Рот у яго адчыніўся і папяроса выляцела.

**Галя Марцінчык**
Белявічы

### ГУСІНАЯ СКУРА

— Тата, ці на мне вырасце пер'е?
— Чаму мела б вырасці?
— Бо я маю гусіную скуру.

**Марыя Кузьміч**
Гарадок

### НЕ ТАЯ ХУТКАСЦЬ

Настаўнік дыктуе задачу:
— Едзем лодкаю з хуткасцю 3 кіламетраў на гадзіну...

Раптам убачыў ён, што адзін з вучняў не піша. Настаўнік пытае яго:
— А ты, Коля, чаму не пішаш?
— Я не хачу лодкай, я параходам, — адказаў той.

**Анна Шыла**
Койлы

### КОЛЬКІ БЫЛІ Ў РАЮ

— Як доўга Адам і Ева былі ў раю? — пытае настаўнік рэлігіі вучня.
— Да восені, — адказвае вучань.
— Чаму да восені? — здзіўляецца настаўнік.
— Таму да восені, бо яблыкі раней не даспяваюць, — вытлумачыў вучань.

**Валянціна Шкода**
Грыгароўцы.

### Жаночыя частушкі

Я пяю сягоння песні,
Бо я вельмі рада,
Гэта шчасце мне дала
Народная ўлада.

А калісьці я жыла,
Слёзы пралівала,
Непісьменная была,
Долю праклінала.

Разлівайся, разлівайся,
Рэчанька шумлівая.
Стала нашая жанчына
Вольная, шчаслівая.

Гаварылі раней бабе:
— Далей кухні не хадзі.
А цяпер яна і ў школе,
І ва ўладах правадыр.

Раней цёмная была,
Не бачыла свету,
А цяпер я старшыня
Нашага савету.

**(Паводле «Беларускіх частушак»)**



— А мо' яны не хочуць, каб ім памагаць?

### ПАМОГ БЫ

Дрэнна выглядаеш, мой суседзіку.
— Цэлую ноч не магу спаць. Як да першага не аддам Янку 900 злотых, то не ведаю што будзе.
— Ах, мой суседзіку, чаму ты да мяне раней не прышоў!
— А што? Пазычыў бы мне грошай?
— Не, мой суседзіку, але маю лякарства, ад якога ты мог бы спаць.

**Зінаіда Карповіч**
Страшава





